СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.14, 17.43, 11.29;
Віцебск — 6.05, 17.33, 11.28;
Магілёў — 6.03, 17.33, 11.30;
Гомель — 6.01, 17.28, 11.27;
Гродна — 6.31, 17.56, 11.25;
Брэст — 6.29, 18.00, 11.31.

МЕСЯЦ:
Першая квадра 3 кастрычніка.

ІМЯНІНЫ:
Астапа, Міхаіла, Хведара, Алега.

# ЗВЯЗДА

3 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
субота, № 198 (21976)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ПРАФКОМ ПАТРАБУЕ...

Прафсаюзны камітэт Мінскага трактарнага завода запатрабаваў ад адміністрацыі прадпрыемства новага павышэння заработнай платы для працаўнікоў шматтысячнага калектыву.

Вераснёўскае павелічэнне акладаў на 15 працэнтаў тут не ўнесла істотных змен у жыццёвы ўзровень, таму што розічныя цэны амаль штотыднёва скачуць уверх. Вось чаму прафком выйшаў з прапановай да кіраўніцтва МТЗ тэрмінова разгледзець гэтае пытанне і ў кастрычніку зноў павысіць зарплату. А каб яшчэ неяк павялічыць даходы трактаразаводцаў, прапанавана таксама для іх знізіць цэны на заводскія платныя паслугі і на тавары, набытыя па імпарту і бартэру.

**Алег ПРАЦЬКО.**

### ДАЧАКАЛІСЯ?

У Маладзечанскім гарсавеце вырашылі пачаць раздзяржаўленне і прыватызацыю прадпрыемстваў камунальнай уласнасці. Сярод першых аб'ектаў: гасцініца «Маладзечна», рэстаран «Папараць-кветка», магазін «Алімпік», малое дзяржаўнае прадпрыемства «Спектр», цырульні «Салон прыгажосці» і «Надзея», магазін вытворча-камерцыйнай фірмы «Маладзечна».

Для правядзення падобных работ створана камісія, у якую разам з дэпутатамі гарсавета, работнікамі выканкома ўвайшлі прадстаўнікі вышэйшых рэспубліканскіх органаў. Ёй даручана вывучыць фінансавае становішча прыватызуемых прадпрыемстваў, вынікі іх гаспадарчай дзейнасці, думку працоўных калектываў. Да Новага года будуць распрацаваны палажэнне і праграма прыватызацыі на 1993 год, якія будуць вынесены на абмеркаванне чарговай сесіі гарсавета.

**Вольга КАЖАМЯКІНА, (РІД).**

### «Левы» мазут не пройдзе

**29 верасня на станцыі Маладзечна гарадскім аддзелам УКДБ сумесна з лінейным аддзелам міліцыі і мытным пунктам затрыманы цыстэрны з паліўным мазутам. Атрымальнікам яго з'яўляецца закрытае акцыянернае таварыства «Гелува» з Каўнаса. Сёлета ў чэрвені яно ўжо спрабавала пераправіць 26 цыстэрнаў мазуту ў Літву. Рашэннем народнага суда Смаргонскага раёна ўсе 1.442 тоны мазуту былі тады канфіскаваны. Цяпер у суправаджальных дакументах на мазуту указаны фальшывы адрас «Гелувы» ў горадзе Баранавічы. Акрамя таго, прадстаўнік «Гелувы» прад'явіў ліцэнзію Дзяржкамнафтапрадукта РБ за подпісам намесніка старшыні Заранка. Народны суд Смаргонскага раёна 30 верасня на падставе Закона аб абароне спажывецкага рынку прыняў рашэнне аб канфіскацыі 161 цыстэрны з мазутам.**

**Падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ.**

### Без машын, затое з паперай

МІНСК. Паводле даных Мінгарстатупраўлення, на 5.067 мільёнаў рублёў за студзень—жнівень бягучага года скараціўся аб'ём вытворчасці ў металаапрацоўчай і машынабудаўнічай прамысловасці сталіцы Беларусі. Грузавых аўтамабіляў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года выпушчана менш на 4.935 штук, пагрузчыкаў — на 327, сельскагаспадарчых машын — на 2.357 тысяч рублёў, падшыпнікаў — на 4.495 штук, трансфарматараў — на 12.450 штук. А вось у лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці выпуск прадукцыі з пачатку гэтага года ўзрос на 79,3 мільёна рублёў.

### МАЗЫРСКІЯ МАЛАДАЖОНЫ ВЫБІРАЮЦЬ РАЗВОД

МАЗЫР. Неяк ужо вельмі своеасабліва кахаюць адзін аднаго мазырскія маладажоны. Інакш чым вытлумачыць той факт, што большасць пар, не пражыўшы і мядовага месяца, распадаецца?

За 8 месяцаў бягучага года ў горадзе зарэгістравана 589 шлюбаў, з якіх 390 аказаліся няўдалымі. Гэта ні многа ні мала —67 працэнтаў. Цуд, дый годзе.

### У ПАМЯЦЬ ПОЛЬСКІХ МАРАКОЎ

ПІНСК. **(С. Шапіра).** Урачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў памяць польскіх маракоў Пінскай флатыліі адбылося ў Кафедральным саборы Успення дзевы Марыі. Флатылія дзейнічала на Палессі з 1919 па 1939 год. Пасля таго як Чырвоная Армія перайшла заходнюю граніцу, камандаванне флатыліі аддало загад затапіць караблі. Частка польскіх маракоў трапіла ў палон, многія з іх былі расстраляны каля вёскі Макраны, а некалькі афіцэраў загінулі потым у Катыні, пад Смаленскам.

На адкрыцці мемарыяльнай дошкі прысутнічала дэлегацыя польскіх ваенных маракоў на чале з намеснікам міністра абароны Б. Камароўскім. Дошку асвяціў архіепіскап Мінска-Магілёўскай епархіі К. Свёнтак.

### ЦІ ВЫДЗЕЛЯЦЬ КРЭДЫТЫ БЕЛАРУСІ?

Учора старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч і першы намеснік міністра фінансаў М. Румас правялі прэс-канферэнцыю з нагоды іх удзелу ў рабоце штогадовай сесіі Міжнароднага валютнага фонду і Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця. Прычым, як падкрэслівалася, гэта першы іх удзел у рабоце сесіі МВФ. Падзея — неардынарная. Але, як можна было зразумець, асноўнай тэмай гутарак нашай дэлегацыі было выдзяленне крэдыту нашай рэспубліцы. Выдзяленне крэдытаў абумоўлена шэрагам сустрэчных патрабаванняў.

### Ці стануць «савецкія пагранічнікі» казакамі?

План змянення назваў цэнтральных вуліц і плошчаў Брэста з'явіўся ў адным з апошніх нумароў гарадской газеты. Мяркуецца вуліцы Дзяржынскага даць імя Казіміра Лышчынскага — сярэдневяковага мысліцеля і атэіста, які нарадзіўся пад Брэстам, перайменаваць Камсамольскую ў Грунвальдскую, Савецкіх пагранічнікаў у Казацкую...

Новыя назвы, па ідэі, павінны прывесці тапаніміку горада ў адпаведнасць з сучаснасцю. План ёсць, але ці прымуць брастаўчане ўдзел у яго абмеркаванні? Калі меркаваць па каротканму бліцапытанню, якое правяла газета «Вечерний Брест», то думкі гараджан вельмі супярэчлівыя.

**Таццяна ГУСЕВА. (РІД).**

### ПАЛІЦЫЯ ЗЛУЕЦЦА

**Двух злачынцаў перадала органам правасуддзя Беларусі польская паліцыя.**

**Як паведамілі ва Упраўленні КДБ па Брэсцкай вобласці, нехта В. А. Зуенка са Стаўрапольскага краю напаў са зброяй у руках на польскага паліцэйскага, пасля чаго быў арыштаваны. Другі злачынца — жыхар Смаленска О. А. Глазаў забіў у Польшчы грамадзяніна СНД.**

**Мяркуючы па ўсім, крымінальныя элементы з краін СНД вывелі з цярпення польскую паліцыю, якая раней у большасці выпадкаў старалася заставацца нейтральнай пры ўсялякіх «разборах» паміж «савецкімі» мафіёзі. Што ж, можа «раззлаваныя» польскія паліцэйскія цяпер дапамогуць турыстам з СНД адчуваць сябе ў суседняй краіне больш бяспечна?**

**БЕЛІНФАРМ.**

### ПЯЦЬ ДЗЁН У ТУРЦЫІ

Пасольства Турэцкай Рэспублікі, супрацоўнікі якога з першых дзён свайго знаходжання ў Мінску ўсвядомілі ўсю глыбіню чарнобыльскай трагедыі, прадаставіла дваццаці беларускім дзецям і чатыром кіраўнікам групы магчымасць адпачыць у Турцыі. Турэцкі турысцкі аўтобус даставіў іх у гэту краіну, вядомую сваімі гістарычнымі і архітэктурнымі помнікамі. Усе расходы за праезд і знаходжанне ў ёй узялі на сябе турэцкія дабрачынныя арганізацыі. Акрамя аздараўлення дзяцей, гэта паездка мела на мэце прыцягнуць увагу грамадскасці краіны да праблемы Чарнобыля. Беларускія дзеці сустрэліся з прадстаўнікамі сродкаў інфармацыі, радыё і тэлебачання.

Першым пунктам знаходжання стала Анкара. Дзеці з вялікай цікавасцю азнаёміліся з памятнымі і выдатнымі мясцінамі горада. Яны прайшлі абследаванне на медыцынскім факультэце Хаджэтэпскага ўніверсітэта, атрымалі кансультацыі і рэкамендацыі турэцкіх медыкаў.

Беларускіх дзяцей прыняў кіраўнік турэцкага парламента пан Хюсаметцін Джындарук, да афіцыяльнага візіту якога рыхтуюцца ў Рэспубліцы Беларусь. Адбыўся таксама візіт у Асацыяцыю журналістаў у Анкары, а ў маляўнічым лясным масіве непадалёку ад горада дзяцей чакаў пікнік. Радасць маленькім падарожнікам даставілі сувеніры і падарункі, уручаныя ім на памяць аб знаходжанні ў краіне.

Пакінуўшы Анкару, група прыбыла ў горад Коніа — сталіцу дынастыі сельджукаў (XI—XIII стст.), далей маршрут пралёг у горад Бурса, які ў XIV стагоддзі быў першай сталіцай Асманскай імперыі. Тут дзеці азнаёміліся з архітэктурай, характэрнай для той эпохі. Канчатковым пунктам іх знаходжання стаў Стамбул. Правёўшы пяць дзён у гэтым старажытным горадзе, беларускія дзеці вярнуліся на радзіму тым жа турэцкім аўтобусам.

**Пасольства Турэцкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**

### ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**(у рублях)**

| | Вільнюс | Масква | С.-Пецярбург | Мінск |
|---|---|---|---|---|
| Ялавічына | — | 300—500 | 300—600 | 180—240 |
| Свініна | 230—250 | 300—450 | 300—800 | 180—300 |
| Куры | — | 400—600 | 300—400 | — |
| Масла | 200 | — | 400 | 200 |
| Алей | 80 | 200 | 200 | 150 |
| Малако | 16 | 70 | 70 | — |
| Тварог | 50 | 150 | 100 | 40—60 |
| Смятана | 170 | 300 | 300 | 150—180 |
| Яйкі | 100—120 | 100 | 100 | 50 |
| Бульба | 25 | 20—25 | 25—50 | 20—30 |
| Памідоры | 35—50 | 50—100 | 50—60 | 35 |
| Агуркі | 45—60 | 100—120 | 80—120 | 40 |
| Цыбуля | 30 | 60 | 35—40 | 35 |
| Яблыкі | 25 | 25—60 | 50—120 | 25—50 |

РІД.

### Нашы цырульнікі ў Японіі

**На працягу двух дзён эксперыментаваць на... галовах японцаў будзе лепшы цырульны дуэт з Віцебска — Алена Баклушына і Аляксандр Копацеў.**

**Як стала вядома, нашы цырульнікі прымуць удзел у своеасаблівым чэмпіянаце свету, які адбудзецца ў Токіо. Алена і Саша прадстаўляюць Беларусь у зборнай камандзе СНД. Акрамя ўласных спаборніцтваў з цырульнай элітай свету, такійская праграма ўключае і шэраг іншых, па ўсёй бачнасці, цікавых мерапрыемстваў. Але аб гэтым будзе вядома толькі пасля прыезду Баклушынай і Копацева з японскіх астравоў.**

**Выпуск «Розгаласа» рыхтавалі: Уладзімір Здановіч, Ігар Карней, Аляксандр Коктыш, Станіслаў Сулкоўскі, Ігар Шчучэнка.**

## Візіт на Гомельшчыну

На Гомельшчыне з рабочым візітам знаходзіцца першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Вячаслаў Кузняцоў. Пачаўся візіт 1 кастрычніка з наведвання навукова-вытворчага аб'яднання «Ратон». Гэта прадпрыемства, як і многія іншыя, якія доўгі час працвіталі на ваенных заказах, таксама паспытала горкі хлеб канверсіі. Але, дзякуючы своечасовай пераарыентацыі на мірную прадукцыю, тут не дайшлі да крайнасці, змаглі наладзіць выпуск высакаякасных тавараў народнага спажывання і забяспечыць даволі стабільную работу калектыву. Хоць, безумоўна, зрабіць гэта ва ўмовах цяперашняга эканамічнага хаосу няпроста. Разрыў прывычных сувязей, дарагоўля металу, энергарэсурсаў, — усё гэта адбіваецца на сабекошце выпускаемай прадукцыі. Да таго ж асноўныя спажыўцы вырабаў «Ратона» знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь, што стварае для калектыву дадатковыя цяжкасці.

У другой палавіне дня Вячаслаў Кузняцоў, разам з якім у паездцы знаходзяцца старшыні пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Іван Смоляр і Мікалай Капытоў, пабываў у вытворчым аб'яднанні «Гомсельмаш». У апошні час на прадпрыемстве некалькі стабілізавалася абстаноўка. Уборка вымусіла вяскоўцаў купляць універсальныя камбайны і па высокіх цэнах. Гэта дало магчымасць калектыву крыху папра віць сваё фінансавае становішча, але галоўнае — з'явілася магчымасць закупіць метал і камплектуючыя вырабы, цэны на якія таксама «кусаюцца». Аднак праблема «Гомсельмаша» застаецца. Мнагатысячны калектыў па-ранейшаму не бачыць перспектывы, у любы момант ён можа з-за ненадзейнасці партнёраў застацца без работы.

У той жа дзень у аблвыканкоме адбылося падвядзенне вынікаў першага дня візіту і гутарка з кіраўнікамі вобласці. Абмяркоўвалася пытанне аб наданні Гомелю статуса свабоднай эканамічнай зоны. 2 кастрычніка Вячаслаў Кузняцоў і кіраўнікі парламенцкіх камісій наведаюць Брагінскі і Хойніцкі раёны. Тэма паездкі ўсё тая ж: Чарнобыль і ліквідацыя вынікаў катастрофы.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Пасол ЗША знаёміцца з Беларуссю

Больш блізкае знаёмства з эканомікай, палітычнай сітуацыяй на Брэстчыне, вывучэнне магчымасцей заходняга рэгіёна рэспублікі для расшырэння ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж фірмамі і дзелавымі людзьмі дзвюх краін — такія галоўныя мэты візіту ў Брэст пасла ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэвіда Суорца.

2 кастрычніка ў аблвыканкоме госцю быў наладжаны прыём, у час якога старшыня абласнога савета Віктар Бурскі расказаў паслу аб рабоце народнагаспадарчага комплексу Брэстчыны, праблемах пераходу да рыначнай эканомікі. Асаблівая ўвага была ўдзелена мэтам і задачам ствараемай пад Брэстам свабоднай эканамічнай зоны.

Пасля гутаркі з кіраўніцтвам вобласці Дэвід Суорц пабываў у Брэсцкай крэпасці, дзе ўсклаў кветкі да Вечнага агню. У другой палавіне дня пасол ЗША наведаў Брэсцкі электрамеханічны канцэрн, дзе пазнаёміўся з работай самага буйнога ў вобласці калектыву.

**Іван КУКСА. БЕЛІНФАРМ.**

### ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ

1 кастрычніка Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Яніна-Эльжбета Смулэк уручыла вярыцельныя граматы Старшыні беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.

Яніна-Эльжбета Смулэк (Эльжбета Смулкава) — прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, паланіст-славіст, спецыяліст у галіне беларускага мовазнаўства і праблематыкі польска-беларуска-літоўскага этнічна-культурнага пагранічча, аўтар трох манаграфій і звыш 90 навуковых работ па гэтай тэме, рэдактар калектыўных зборнікаў.

Нарадзілася 24 чэрвеня 1931 года ў Львове ў сям'і інжынера лясніцтва. У 1941—1946 гадах была дэпартавана ў Сібір. Пасля вяртання ў Польшчу працавала і працягвала вучобу, атрымаўшы ў 1956 годзе званне магістра польскай філалогіі ва ўніверсітэце імя М. Каперніка ў Торуні. З 1957 па 1991 год працавала ў Варшаўскім універсітэце: спачатку на кафедры беларускай філалогіі, а затым на кафедры агульнага мовазнаўства, прайшоўшы ўсе ступені прафесіянальнай падрыхтоўкі ад асістэнта да прафесара.

У 1991 годзе была назначана Генеральным консулам Рэспублікі Польшча ў Мінску. З чэрвеня 1992 года — пасля стварэння пасольства — выконвала функцыі Часовага Паверанага ў справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь.

З 1980 года—член «Салідарнасці».

Замужам, мае дачку.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**

### *Калектыву газеты «Звязда»*

**Паважаныя сябры!**

**Сардэчна віншуем з 75-годдзем Вашага выдання — старэйшай беларускай газеты «Звязда».**

**На працягу свайго доўгага гістарычнага шляху газета жыла справамі і турботамі беларускага народа, дзяліла з ім радасць перамог і горыч страт. Журналісты «Звязды» неслі чытачу роднае слова ў 20-я гады, непасрэдна на сабе адчулі жахлівы подых сталінскіх рэпрэсій, палымяным радком змагаліся з ворагам у час Вялікай Айчыннай, дапамагалі пасляваеннаму гаспадарчаму аднаўленню, зведалі цяжар палітыкі застою.**

**Горача вітаем у дзень юбілею ветэранаў газеты, якія вытрымалі ўсе выпрабаванні і засталіся вернымі беларускаму слову.**

**Слаўныя традыцыі «Звязды» з гонарам працягвае сённяшняе пакаленне журналістаў. Газета актыўна развівае ідэі суверэнітэту рэспублікі, садзейнічае перабудове яе эканомікі на аснове цывілізаваных рыначных адносін, выступае за захаванне нацыянальнай спадчыны, пашырэнне ўжывання роднай мовы.**

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь шчыра дзякуе калектыву газеты «Звязда» за плённую працу дзеля Бацькаўшчыны, жадае далейшых поспехаў на ніве Адраджэння, зычыць дабрабыту і моцнага здароўя.**

**ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

## ДОЙДЗЕМ ДА БЕЛАРУСІ

**ГЭТАЕ ІМКНЕННЕ ЯДНАЛА ЦЭЛЫЯ ПАКАЛЕННІ «ЗВЯЗДОЎЦАЎ» І СЯБРОЎ ГАЗЕТЫ І ПРЫВЯЛО ІХ НА ВЕЧАРЫНУ З НАГОДЫ 75-ГОДДЗЯ «ЗВЯЗДЫ»**

Няпросты і строгі наш час не надта багаты на святы. Многія з нас пачалі лічыць іх непатрэбнай празмернасцю і раскошай. Але бываюць такія падзеі і такія святы, без якіх не адолець будняў. Яны — як апора для душы ў напластаваннях падзей: ці суладна з праўдай, ці без фальшу?

Вось такое свята было ў першы дзень кастрычніка ў «Звязды». У Доме літаратара сабраліся тыя, каго з'яднала газета на працягу драматычных 75 гадоў, — журналістаў і шматлікіх сяброў газеты: і старых, і новых. У цэнтры ўвагі былі, безумоўна,

### Госці

«Звязда» заўсёды была рада гасцям. На сваіх старонках. І ў прыватных сустрэчах. І на прайшоўшай вечарыне.

Быў сярод гасцей Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч, які ў сваім выступленні сказаў, што ён вучыўся беларускасці ў «Звязды». Фактычна ўсё жыццё быў звязаны з газетай, і не толькі праз падпіску. Бацька Станіслава Станіслававіча быў «звяздоўцам», іх сям'я жыла ў двухпавярховым доме на рагу вуліцы Сляпянскай, побач з іншымі «звяздоўцамі», «Я ўбачыў, што яны — вельмі працалюбівыя, сумленныя людзі, дабрабыт якіх можа выклікаць толькі спачуванне. Людзі, якія неслі роднае слова ў свой народ, не вельмі ўшаноўваліся, асабліва ў сталінскі час. Тым больш прыемна, што звяздоўцы выстаялі і працягваюць сваю нялёгкую, але патрэбную справу».

Міністр замежных спраў Пётр Краўчанка зазначыў, што ў самыя розныя гады людзі, адарваныя ад Бацькаўшчыны, выпісвалі «Голас Радзімы», «ЛІМ» і «Звязду». І што апошняя тэме нацыянальнай культуры заўсёды ўдзяляла належную ўвагу.

Народны паэт Беларусі, старшыня Пастаяннай камісіі ВС РБ па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч працаваў у свой час літаратурным кансультантам у «Звяздзе», усё жыццё выпісвае яе. А стаў яе сябрам 47 гадоў назад, калі прыслаў у газету свой верш пра вяртанне салдата з вайны на Радзіму. Верш не надрукавалі, але звяздоўскі адказ, прысланы пачынаючаму паэту, застаўся на ўсё жыццё цёплым успамінам. Былы «звяздовец» Барыс Стральцоў гаварыў пра пачуццё журналісцкай супольнасці і таварыскасці ў газеце, якое захавалася, на яго думку, і цяпер.

Увогуле, было сказана шмат добрых слоў у адрас газеты і яе супрацоўнікаў і намеснікам Старшыні Савета Міністраў Міхаілам Дземчуком, і міністрам інфармацыі Анатолем Бутэвічам, і намеснікам міністра культуры Мікалаем Гулякам і многімі, многімі іншымі гасцямі вечарыны. Благаславенне газеце беларускага экзархата перадаў айцец Серафім.

Мы ўдзячныя ўсім сваім гасцям. І сваім чытачам. В. Рудакоўскаму, які з першай зарплаты падпісаўся на «Звязду» і не здрадзіў ёй ні разу (а з таго часу мінула ўжо сорак гадоў!) рэдакцыя аформіла бясплатную падпіску. Былі для «Звязды» і

### Падарункі

Найлепшы падарунак на любую ўрачыстасць, вядома ж, цёплыя і прыветныя вочы ўсіх, хто прыйшоў на свята, а таксама той агульны настрой добразычлівасці, прыязнасці і ўзаемаразумення, які ўсталёўваецца толькі там, дзе сабраліся сябры. Гэта калі нязначныя, здавалася б, дэталі і згадкі знаходзяць імгненны водгук, ва ўсіх прысутных асвятляюць твары ўсмешкамі навать тады, калі размова ідзе на сур'ёзныя тэмы. І такая атмасфера ў зале, нам здаецца, панавала. Успаміны былых «звяздоўцаў» Янкі Казлова, Віктара Карамазава, Сяргея Законнікава пра маленькія «сямейныя» сакрэты паказалі, што ёсць рэчы, дарагія і блізкія ўсім нам. Дзеля гэтага ўвогуле і варта наладжваць святы.

Раскажам нашым сябрам і пра іншыя падарункі, што прынеслі на свята госці (яны ж нашы агульныя), а іх мэта адна — паспрыяць аўтарытэту газеты, зрабіць так, каб множыўся лік яе падпісчыкаў і сяброў. Саюз прадпрымальнікаў, які на свяце прадстаўляў Уладзімір Карагін, вырашыў «падарыць» «Звяздзе» 75 новых падпісчыкаў — выдзелены грошы на бясплатную падпіску такой колькасці экземпляраў газеты. Каму яны дастануцца? Давайце разам аператыўна абмяркуем гэта. Мы пачулі таксама, што адзін з журналістаў «Звязды» ўвойдзе ў састаў дэлегацыі прадпрымальнікаў, што паедзе за мяжу. І гэта таксама на нашу агульную карысць — нам, не спешчаным такой увагай і такімі магчымасцямі, хочацца данесці чытачу аб'ектыўны расказ пра тое, што ўбачана на свае вочы і па-за нашым домам.

Мы аднолькава рады тым артыкулам, нізкам вершаў, што паабяцалі «Звяздзе» Пётр Краўчанка, Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Адам Мальдзіс, а таксама тым знакам увагі, што выказалі да газеты наш урад, выканком Савета Федэрацыі прафсаюзаў, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, Міністэрства культуры... Усе, хто прыйшоў на наша свята. Зрэшты, і на свяце ў цэнтры ўвагі была газетная справа. Таму на вечарыне і нарадзіліся

### Ідэі. Прапановы

Хаця ў большасці «звяздоўцаў» назва роднай газеты не выклікае ніякіх сумненняў — яна наша гісторыя ў слове — чытачы ўсё ж зноў і зноў вяртаюцца да гэтай тэмы.

І мы не можам не прыслухацца да іх.

— Нацыянальнай беларускай газеце зусім не пасуе назва «Звязда», — выказаў сваю думку дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс. — Слова гэтага няма ў слоўніках. Замест яго можна знайсці нешта прыемнае, беларускае. Напрыклад, «Заранка»...

Безумоўна, канчаткова вырашыць быць са старой назвай ці развітацца з ёю, — мы не можам, не параіўшыся з чытачамі. А што вы скажаце наконт гэтага?

(Заканчэнне на 3-й стар.).

